# КРЫВІНКА

ЧЭРВЕНЬ
№9 (290)
2022 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## АДКРЫЛАСЯ ЛЕТНЯЯ КАВЯРНЯ

**У мінулую суботу, 18-га чэрвеня, у Бешанковічах на вуліцы Інтэрнацыянальная, 21 адкрылася кавярня «Маяк». Ляжыць яна ў пачатку вуліцы амаль насупраць магазіна «Паварот».**



Пачынае працу аб адзінаццатай гадзіне раніцы, а заканчвае ў 22-00 або ў 23-00.

Тут можна набыць піва або квас, выпіць кавы (рус. «кофе»). Уладальнік кавярні -- малады бешанковіцкі хлопец Віктар Арцюх. Адкрыць сваю справу было ягонай жыццёвай марай. Будынак пад кавярню ён выкупіў на аўкцыёне, зрабіў рамонт, закупіў неабходнае абсталяванне. За першы тыдзень працы аптымізму ў прадпрымальніка не зменшылася. Ён па-ранейшаму поўны энергіі і новых планаў. На днях ён закупіў маразільнік, і цяпер у кавярні можна набыць марозіва.

Вельмі хацелася б, каб у маладога прадпрымальніка ўсё атрымалася.

І вы, паважаныя чытачы, калі будзеце пакутваць ад летняй спёкі, успомніце пра кавярню "Маяк". Тут вам будуць заўжды радыя.

**Г. Станкевіч**

БУДАЎНІЦТВА

## УВОД ДОМА №9 ЗРЫВАЕЦЦА

**Кіраўніцтва раёна занепакоена маруднымі тэмпамі капітальнага рамонту дома № 9 на вуліцы Маладзевай у Бешанковічах.**

На календары ўжо сярэдзіна чэрвеня, да канца ж месяца работы павінны быць поўнасцю завершаны. Так заявералі прадстаўнікі падраднай арганізацыі падчас пазачарговага паседжання райвыканкама. Аднак яшчэ 25 балконных агародж не заменены.

Асноўная прычына - асобныя жыхары так і не дэмантавалі на балконах аконныя праёмы. З некалькімі ўладальнікамі кватэр з-за гэтага распачатыя судовыя справы.

Старшыня райвыканкама Галіна Унуковіч запатрабавала прыняць вычарпальныя меры і завяршыць работу своечасова. Пры неабходнасці трэба павялічыць колькасць працуючых на аб'екце, а галоўнае, дамовіцца з жыхарамі, якія не забяспечваюць доступ будаўнікоў да балконаў.

Цяпер работнікі Бешанковіцкай ПМК-41 добраўпарадкоўваюць прылеглую да дома тэрыторыю.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах beshenkovichi.vitebsk-region.gov.by**

## ****

*Я вярнуся назаўжды*
*ў родны дом за гаем,*
*і на тое ў мяне ёсьць*
*важкіх шмат прычын:*
*там жыве мая туга,*
*што мяне чакае,*
*як бы я не спрабаваў*
*ад яе ўцячы.*

*Там вісіць зь вясёлкай дождж,*
*а начамі зьнічкі,*
*быццам яблыкі, ляжаць,*
*сьвецяцца ў траве.*
*Там закружыць на мяжы*
*ў белым вальсе дзічка,*
*там у яблынь між галін*
*маладзік жыве.*

*Там на ложку ціха сьпяць*
*сны майго дзяцінства,*
*дзе сярод усіх сяброў*
*месца ёсьць і мне.*
*Там над хатай клён стары*
*ў строях серабрыстых,*
*згледзеўшы мяне здалёк,*
*галавой кіўне.*

*І счарсьцьвелая душа*
*памякчэе ўмомант,*
*і заплача, як дзіця,*
*шчыра і ўзахліп.*
*Я прыйду з усіх дарог*
*назаўжды дадому,*
*бо існуе прыцягненьне*
*роднае зямлі.*

**Г.Станкевіч**



ДА 575-ГОДДЗЯ

## ІНТЭРВ'Ю З АРГАНІЗАТАРАМІ СВЯТА Ў БЕШАНКОВІЧАХ

**6-га жніўня 2022 года Бешанковічы ўрачыста адзначаць 575-годдзе горада. Адказаць на некаторыя пытанні мы папрасілі галоўнага спецыяліста аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Марыну Пясецкую.**

***— Калі плануецца правядзенне ўрачыстых мерапрыемстваў, якая канцэпцыя святкавання юбілею гарпасёлка?***

— Дата правядзення святкавання 575-годдзя Бешанковіч ужо вызначана, — паведаміла Марына Анатольеўна. — Гэта будзе 6-га жніўня, субота. Абрана яна ў сувязі з тым, што першая згадка пра Бешанковічы ў гістарычных крыніцах звязана з рашэннем у 1447 годзе Казіміра IV пабудаваць у Беларусі ў памяць аб выратаванні яго жонкі ад утаплення ў 20-ты дзень ліпеня шэсць цэркваў у імя святога Ільі-прарока, у тым ліку ў Бешанковічах. Ільін дзень — 2 жніўня, таму прывязка дня горада ў нас і надалей на пастаяннай аснове будзе да бліжэйшых да гэтага дня выхадных. Вырашана таксама, што гэта будзе свята беларускай гасціннасці, кірмашовых забаў і майстроў сваёй справы пад назвай «Бешанковіцкі раёк».

Для тых, хто не ведае: раёк — гэта народны тэатр, які складаецца са скрыні, дзе перастаўляюцца карцінкі або перамотваецца з аднаго катка на другі папяровая паласа з дамарослымі выявамі розных гарадоў, вядомых людзей, падзей… Раёшнік перасоўвае малюнкі і распавядае прыказкі і прымаўкі да кожнага новага сюжэта. Такім чынам, «Бешанковіцкі раёк» у юбілейны дзень нараджэння гарпасёлка будзе не толькі культурным брэндам нашага раёна, але і дапаможа адрадзіць, захаваць нематэрыяльную культурную спадчыну нашых продкаў, папулярызаваць беларускую гасціннасць, садзейнічаць павышэнню культурнай і турыстычнай прывабнасці рэгіёна. З яго дапамогай бешанкавічане і госці свята змогуць яшчэ раз пераканацца, наколькі багатая гісторыя нашага краю, у чарговы раз адчуюць пачуццё гонару за сваю малую радзіму. Забягаючы наперад, адзначу, што райкі з гістарычнымі даведкамі будуць выстаўлены на ўсіх галоўных пляцоўках свята.

***— Марына Анатольеўна, сёння ўжо можна прыадкрыць сакрэты падрыхтоўкі свята?***

— Так, канцэпцыя правядзення святочных мерапрыемстваў распрацавана і звязана з нашай сімволікай — гербам гарадскога пасёлка Бешанковічы. Асноўны яго элемент, як памятаеце, — чырвоная ладдзя, гружаная залатым таварам, з распушчаным чырвоным ветразем. Яе форма ўзята з радавога герба графаў Храптовічаў-Буценевых, якія валодалі Бешанковічамі з 1783 года да пачатку XX стагоддзя.

Наш гарпасёлак размешчаны на рацэ Дзвіна, па якой праходзіў гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі». У XVII стагоддзі ў Бешанковічах была пабудавана адна з найбуйнейшых на Дзвіне прыстаняў, адкуль тавары па гандлёвым водным шляху адпраўляліся ў Рыгу. Груз на ладдзі сімвалізуе, што тавары не толькі адпраўляліся з гэтай прыстані, але і дастаўляліся па рацэ ў Бешанковічы, бо тут штогод праходзіў вядомы на ўсю ваколіцу чатырохтыднёвы Бешанковіцкі кірмаш — першы пасля Зэльвенскага. Сюды з'язджаліся купцы з Прыдзвіння, Прыдняпроўя, гарадоў і мястэчак як Беларусі, так і Расіі, іншых замежных краін. Дзвіну на гербе адлюстроўваюць пяць блакітных хвалістых пасоў, што сімвалізуе пяць поўных стагоддзяў з дня заснавання гарпасёлка. Таму ў дзень свята ў райцэнтры будуць працаваць пяць тэматычных пляцовак, па адной — на стагоддзе.

Першая пляцоўка — царкоўная, «Ільінскія званы» — будзе прысвечана XV стагоддзю, калі Бешанковічы ўпершыню згадваюцца ў гістарычных летапісах. Размесціцца яна каля храма Святога прарока Ільі. Плануецца прыезд у гэты дзень у Бешанковічы дэлегацый Ільінскіх храмаў Беларусі, царкоўная служба, спевы, духоўная музыка ў выкананні выхаванцаў нядзельных школ, раёк з гісторыяй Ільінскай царквы, работа царкоўных гандлёвых лавак (зараз, напрыклад, вядуцца перамовы са Свята-Елізавецінскім манастыром).

* * *

Другая пляцоўка — «Бешанковічы — яўрэйскае мястэчка» — размесціцца на вуліцы Інтэрнацыянальнай (каля ЗАГСа) і будзе прысвечана XVI стагоддзю і першаму згадванню пра яўрэйскае насельніцтва Бешанковіч.

Не сакрэт, што да вайны наш райцэнтр быў практычна яўрэйскім паселішчам. Таму на свята запрошаны дэлегацыі яўрэйскіх суполак. Чакаецца выступленне яўрэйскіх калектываў. Спадзяёмся, што да нас прыедзе выстава «Бешанковічы — зваротная дарога» з Санкт-Пецярбурга. А раёк пазнаёміць прысутных з гісторыяй Бешанковіцкай яўрэйскай абшчыны.

* * *

У 1634 годзе Бешанковічы атрымалі Магдэбургскае права, што дазваляла ладзіць тут два кірмашы за год. Таму ў XVII стагоддзі ў нас і была пабудавана адна з найбуйнейшых прыстаняў, адкуль тавары адпраўляліся ў


***(працяг на стар. 2)***

## ДА 575-ГОДДЗЯ

*(пачатак на стар. №1)*

Прыбалтыку. Трэцяя пляцоўка — «Петрапаўлаўскі кірмаш» — размесціцца ад ракі Дзвіна да Дома фальклору. Усе сакрэты пакуль адкрываць не буду. Магу толькі адзначыць, што гэта будзе відовішчнае мерапрыемства, якое сыходзіць каранямі ў гісторыю нашага роднага краю. Як і стагоддзі таму, ля Дзвіны з'явяцца шэрагі гандляроў сувенірнай прадукцыі, рамеснікаў, майстроў. Пройдзе абласны конкурс «Бульбашы на кірмашы».

* * *

Чацвёртая пляцоўка —« Шпацыр да маёнтка Храптовічаў» — будзе прысвечана XVIII стагоддзю. У 1783 годзе Бешанковічы сталі ўласнасцю Іаахіма Літавора Храптовіча, які і пабудаваў тут новы палац (цяпер будынак дзіцячай школы мастацтваў), разбіў парк і сад. Зараз будынак рамантуецца, ажыццяўляецца афарбоўка фасада. Ідуць работы па добраўпарадкаванні прылеглай тэрыторыі і тэрыторыі парку, каб праз два месяцы мы змаглі не проста прагуляцца па паркавых дарожках, але і паглядзець тэатралізаванае прадстаўленне з элементамі гістарычнай рэканструкцыі балю, выступленні творчых калектываў, пазнаёміцца з выставамі гісторыі сядзібы і работ мастака Напалеона Орды, з гісторыяй роду Храптовічаў, успомніць гісторыю пра «дуб Напалеона». На пляцоўцы будуць працаваць таксама касцюміраваныя персанажы для фатаграфавання, фотазоны, водныя атракцыёны на сажалках у парку (катамараны, водныя шары).

* * *

З адным з легендарных фактаў з гісторыі Бешанковіч звязана будзе таксама пятая пляцоўка. А дакладней, з тым, што ў Віцебскай рэдакцыі «Энеіды навыварат» згадваецца Бакціха-куціха, якая была ўтрымальніцай піўнога пограба ў Бешанковічах, мела тут бровар і гандлёвую лаўку. Пляцоўка «Бакціха-куціха» (месца народных гулянняў) размесціцца каля Дома фальклору, дзе можна будзе пакаштаваць стравы нацыянальнай кухні, тут пройдуць выступленні фальклорных калектываў, народныя гульні, кірмашовыя забавы, прэзентацыя квасу, гарбаты, напояў. Будуць працаваць раёк з фрагментамі паэмы «Энеіда навыварат», пляцоўкі сельскіх Саветаў.

У святочныя мерапрыемствах задзейнічаем таксама гарадскі стадыён, цэнтральную плошчу. Завершыцца юбілейны дзень нараджэння райцэнтра вялікім канцэртам, феерверкам і святочнай дыскатэкай.

***— Бешанковічы ўжо даўно не бачылі такога свята. Гэтакая насычаная праграма патрабуе вялікай падрыхтоўкі?***

— Вядома, канцэпцыя свята распрацаваная, цяпер вядзём перамовы з творчымі калектывамі, высвятляем, хто зможа да нас прыехаць, а хто не. Вырашаем пытанні з размяшчэннем гасцей. Прадумваем, як скласці праграму так, каб кожны жадаючы мог пабываць на ўсіх пяці пляцоўках, убачыць сваімі вачыма ўсё самае адметнае, самае цікавае.

**Ларыса Паўлоўская**
**"Зара"**

## ЗДАРЭННЕ

# ТРАГЕДЫЯ НА ПЕРАХОДЗЕ

**81-гадовы пенсіянер пацярпеў у выніку наезду аўтамабіля, калі пераходзіў вуліцу ў цэнтры Бешанковічаў.**

ДТЗ адбылося вечарам 19-га чэрвеня: вадзіцель аўтамабіля "Toyota Avensis" наехаў на састарэлага пешахода, які пераходзіў праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

У выніку наезду пенсіянер атрымаў траўмы і быў шпіталізаваны, пра гэта «ННВ» паведамілі ў абласной ДАІ.

Нагадаем, што днём раней у Оршы вадзіцель легкавушкі, які здаваў назад, збіў на пешаходным пераходзе 94-гадовага дзядулю.

**Народныя Навіны Віцебска**

# УКРАЎ РОВАР

**14-га чэрвеня 2022 года ў праваахоўныя органы паступіла паведамленне ад жыхаркі г. п. Бешанковічы аб крадзяжы з гарадскога стадыёна горнага веласіпеда.**

Раніцай 13-га чэрвеня 67-гадовы жыхар гарпасёлка, які праходзіў паўз стадыён, убачыў пакінуты без нагляду ровар і, скарыстаўшыся сітуацыяй, забраў яго.

Следча-аператыўная група, што прыбыла на месца здарэння, пры дапамозе запісаў камер відэаназірання высветліла асобу.

Бешанковіцкім РАСК распачата крымінальная справа у дачыненні да мужчыны па ч. 1 арт. 205 КК Рэспублікі Беларусь (крадзеж).

**А.Тутэйшы**

## НАРОДНЫ МАЙСТАР

# АЛЕСЯ АЎЧЫННІКАВА СТВАРАЕ ШЭДЭЎРЫ З ГЛІНЫ

**«Чалавек, які валодае прыроджаным талентам, адчувае найвялікшае шчасце тады, калі выкарыстоўвае гэты талент», — сказаў нямецкі пісьменнік і філосаф Гётэ.**



Алеся Аўчыннікава з Бешанковіч, работы якой вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі, знайшла сваё шчасце ў кераміцы.

У гэтым годзе ёй прысуджана ганаровае званне "Народны майстар Беларусі".

**Важна цярпенне**

Алеся родам з Латвіі. З мастацтвам стварэння керамічных вырабаў пазнаёмілася яшчэ ў школьныя гады. Калі ёй было 10 гадоў, разам з сям'ёй пераехала ў Бешанковічы. Тут працягнула займацца любімым рамяством у мясцовай школе мастацтваў. Першым настаўнікам Алесі быў Іван Іванавіч Лагуноў.

- Адзначу, менавіта ён даў штуршок да развіцця практычна ўсім цяперашнім работнікам Дома рамёстваў, - распавяла майстрыха.

Пасля вучобы ў школе яна паступіла ў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны каледж, дзе спазнала сакрэты стварэння шэдэўраў з гліны.

– Дзякуй педагогам Святлане Кацубы, Яўгену Кутаркіну, якія выхавалі ўва мне цярплівасць. Дадзеная якасць неабходна пры працы з керамікай, - адзначыла Алеся.

- У каледжы я вывучыла тэхніку набіваных дэкораў. Прадстаўце, велізарная колькасць дробных элементаў, якія цалкам выконваюцца ўручную. Без уседлівасці столькі складана зрабіць.

Атрымаўшы дыплом, Алеся па размеркаванні паехала працаваць у Рэчыцу на завод керамічных вырабаў, а ў 2002 годзе перабралася ў Бешанковічы.

**Гліна не пластылін**

Кожны ў дзяцінстве ляпіў чыгуны з пластыліну. Многім здаецца, што тое ж самае лёгка стварыць з гліны. Але насамрэч гэта не так. Каб з яе нешта стварыць, трэба ўлічваць мноства фізічных і хімічных працэсаў.

– У кожным раёне Беларусі – паклады гліны пэўнага віду. У Бешанковічах мы знайшлі кар'ерную, - распавяла Алеся.

- Пашанцуе, калі яна без прымешак. Але ў большасці выпадкаў яе трэба чысціць. Існуюць розныя спосабы. Напрыклад, развесці гліну вадой і працадзіць масу праз сіта, затым пераліць у гіпсавыя формы, якія ўбяруць усю лішнюю вадкасць.

Другі спосаб больш працаёмкі: спачатку гліну высушваюць, потым ператвараюць у парашок. Для гэтага ў тазах яе топчуць ботамі з металічнымі падковамі. Пасля гэтага атрыманае прасейваюць.

Яшчэ гліну можна купіць. Напрыклад, парашковую або вакуумаваную.

Ёсць нюансы таксама пры высушванні і абпальванні выраба. Трэба ведаць, як правільна гэта рабіць, каб нарыхтоўка не трэснула.

**З гісторыі краю**

Ганчарнае рамяство ў Бешанковічах мела шырокае распаўсюджванне. Адзін з найбуйнейшых і вядомых летніх кірмашоў Петрапаўлаўскі, які ў далёкія часы тут праводзіўся, не мог абысціся без продажу керамічных свістулек.

Калі Алеся стала больш глыбока вывучаць гісторыю краю, то знайшла інфармацыю, што ў раёне некалі жыла жанчына-майстар, якая рабіла цацкі.

- Свістульку ў выглядзе баранчыка я знайшла ў сябе на агародзе, - расказала Алеся.

- На яе аснове стварыла свае першыя цацкі. Каб выканаць аўтэнтычнасць, рабіла іх з кар'ернай гліны Бешанковічаў.

Мясцовыя краязнаўцы таксама прыносяць свае знаходкі. Аляксандр Мачульскі знайшоў антрапаморфную свістульку ў Вуле на рачной водмелі. Аказалася, яна адносіцца да сярэдзіны XVI стагоддзя. Нягледзячы на такі самавіты ўзрост, цацка была ў добрым стане. Яна ўнікальная тым, што гэта свістулька-бразготка з глі876нямі гарошынамі.

Алеся Аўчыннікава аднавіла тэхналогію вырабу антрапаморфнай свістулькі-бразготкі, якая была ўключана ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі.

- Зусім нядаўна ў Астроўне знайшлі яшчэ адну свістульку - у выглядзе птушкі, - расказала Алеся. - Збіраюся яе ўзнавіць.

Таксама ў планах зрабіць калекцыю работ, прысвечаную бешанковіцкай археалогіі.

Штогод каля вёскі Асавец пад Бешанковічамі на знакамітым Крывінскім тарфянішчы праходзяць грандыёзныя археалагічныя раскопкі. Кіраўнік экспедыцыі Інстытута гісторыі НАН Максім Чарняўскі падзяліўся са мной інфармацыяй аб знаходках.

**Малюнак на шкле**

Статуэткі, вазы, чыгуны, падсвечнікі, арыгінальныя сувеніры - усё гэта можна ўбачыць на стэндах пры ўваходзе ў мясцовы Дом рамёстваў, які ўзначальвае Алеся Аўчыннікава. Сёння ён размешчаны ва ўтульнай хатцы, якая патанае ў зеляніне, недалёка ад цэнтра Бешанковіч. Як адзначыла яго гаспадыня, памяшканне вялікае, зараз ёсць прастора для творчасці.

Алеся любіць не толькі мяккія тэкстуры, такія як гліна, яшчэ яе захапляе шкло, а дакладней, роспіс па ім.

– У свой час гэта быў распаўсюджаны від творчасці на Віцебшчыне, – адзначыла майстар. - Але пасля Вялікай Айчыннай вайны вітражоў практычна не засталося. Пачала вывучаць разнастайную літаратуру, каб аднавіць тэхналогію іх выраба.

Што цікава, для нашага рэгіёна характэрны сюжэты з букетамі кветак і прыгажунямі з птушкамі. Аналагічныя былі ў размаляваных дываноў і куфраў. Асаблівасць - кантрасныя колеры, плаўных пераходаў не было.

Яшчэ на шкле малявалі абразы і вясельныя матывы.

Дзякуючы віцебскім майстрам і вучоным, сярод якіх кандыдат мастацтвазнаўства Людміла Вакар, адраджаецца і гэты пласт народнай культуры.

Алеся Аўчыннікава з задавальненнем перадае свае веды ўсім, хто хоча далучыцца да адраджэння нацыянальнай культуры.

Дзве дачкі пайшлі па слядах маці, яны частыя госці ў Доме рамёстваў, маладшая з асаблівай радасцю займаецца лепкай з гліны.

Тут працуюць сем майстроў, зусім нядаўна сюды прыйшоў разьбяр па дрэве.

У планах у Алесі - аднавіць рэгіянальны касцюм Бешанковічы.

За творчыя дасягненні ў 2019 годзе Алесі Аўчыннікавай было прысвоена ганаровае званне "Чалавек года Віцебшчыны". Таксама яна ўдзельніца і лаўрэат шматлікіх конкурсаў, выставак, кірмашоў, такіх як Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", абласны пленэр ганчароў "Гліна спявае", Міжнародны фестываль песні і музыкі "Дняпроўскія галасы ў Дуброўне" і інш.

**Алена Фёдарава**
**Віцебскія Весці**

НАША СПАДЧЫНА

# НЕПАХІСНЫ У СВАІХ ПРЫНЦЫПАХ, РЭАЛІСТ-ТРАГІК, ПАЧЫНАЛЬНІК АКОПНАЙ ПРАЎДЫ ПРА ВАЙНУ

**19 чэрвеня 98-ы дзень народзінаў Васіля Быкава. «Народная воля» працягвае публікаваць фрагменты з кнігі «250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур». Аповед пойдзе пра адну з самых буйных постацяў у беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя, народнага пісьменніка Беларусі — Васіля Быкава.**




Васіль Быкаў — пісьменнік, народны пісьменнік Беларусі (1980), Герой Сацыялістычнай Працы (1984), лаўрэат Ленінскай прэміі (1986).

Строгі, нават жорсткі рэаліст-трагік. Схіляўся і да мадэрнізму. Майстар ваеннай аповесці, у якой на лакальным матэрыяле глыбока раскрываў сутнасць чалавека. Пачынальнік гэтак званай акопнай праўды пра Вялікую Айчынную вайну. Аднак заставаўся непахісным у сваіх гуманістычных і дэмакратычных прынцыпах. Прайшоў усю сваю творчую дарогу мужна, не паддаючыся ідэалагічнаму ціску савецкай сістэмы, вырасшы ў сімвал сумлення нацыі, яе найвышэйшы аўтарытэт.

Дарога жыцця В.Быкава пачыналася ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. У 1939 годзе паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча, але быў вымушаны пакінуць гэтую навучальную ўстанову і стаў вучыцца ў школе будаўнікоў. Затым — вайна, праца на абарончых земляных аб'ектах, адступленне, прызыў у войска, вучоба ў Саратаўскім ваенным вучылішчы (1942–1943). Пасля — фронт. Ваяваў у пяхоце, артылерыі, пераважна на перадавой. Двойчы быў паранены. Зведаў у поўнай меры цану чалавечага жыцця ва ўмовах тагачаснай франтавой рэчаіснасці.

Дэмабілізаваўся ў 1947 годзе і прыехаў у Гродна, дзе працаваў мастаком, а пасля журналістам рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда». У 1949–1955 гадах служыў у войску. Жывучы ў Гродне, В.Быкаў шмат друкаваўся. Кожная яго аповесць станавілася падзеяй, пашырала кола яго чытачоў, прыцягвала ўвагу кінематографа і сцэны. У кожным са сваіх твораў пісьменнік ставіў героя перад тварам смерці і прымушаў рабіць свой выбар, правяраў яго на чалавечую годнасць. Раскрываліся ў творах і агульначалавечыя думкі пра жыццё і яго страшны фінал, пра маладосць, каханне, адвечную красу прыроды, пра магчымасць духоўнага патэнцыялу чалавека, пра дабрату і жорсткасць, высакароднасць і шкурніцтва. Гэта ў аповесцях «Жураўліны крык» (1960), «Здрада» (1961), «Трэцяя ракаета (1962), «Пастка» (1962), «Альпійская балада» (1964), «Мёртвым не баліць» (1965), «Праклятая вышыня» (1968), «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1970), «Абеліск» (1971), «Дажыць да світанку» (1973), «Воўчая зграя» (1974), «Яго батальён» (1975), «Пайсці і не вярнуцца» (1978). Кожны з твораў непаўторны і зместам, і стылёвымі адценнямі. Але ў кожным герой праходзіць праз пакутна-трагічныя нягоды і страты, выяўляючы такім чынам свой унутраны воблік.

Жывучы ў Гродне, пісьменнік шмат ездзіў па СССР, краінах Захаду. Пашыралася кола яго аднадумцаў і прыхільнікаў сярод калег і чытачоў. У Гродне Быкаў узначаліў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1978 годзе пераехаў у Мінск, дзе выйшлі аповесці «Знак бяды» (1984) «Кар'ер» (1986), «У тумане» (1987), «Аблава» (1989), у 1990-я гады — «Сцюжа», «Воўчая яма», «Балота», «Пакахай мяне, салдацік», якія замацавалі сусветны аўтарытэт мастака-гуманіста.

Напрыканцы 1990-х гадоў ён пакінуў радзіму і выехаў на Захад. Жыў у Фінляндыі, Германіі, Чэхіі.

Кнігі апошняга перыяду жыцця пісьменніка: зборнік «Сьцяна» (1997), «Пахаджэньне. Прыпавесьці» (1999) — вызначаюцца глыбокім трагізмам успрымання жыцця. Апошняя прыжыццёвая кніга В.Быкава «Доўгая дарога дадому» (2002) — мемуары. Яны цікавыя не толькі фактамі, але і іх асэнсаваннем, ацэнкамі, зробленымі з вышыні пражытых гадоў. Перад намі — эпапея чалавечага лёсу на крутых паваротах XX стагоддзя. В.Быкаў даў сваімі ўспамінамі вельмі важныя ўрокі жыцця. У канцы кнігі — нават своеасаблівы маральна-патрыятычны запавет, звернуты да сучаснікаў і нашчадкаў. Гэта нібы завяршэнне яго багатай публіцыстыкі.

Цяжка захварэўшы, В.Быкаў пакінуў Чэхію і прыехаў у Мінск, каб апошні раз дакрануцца да роднай зямлі.

Спадчына выдатнага беларускага пісьменніка выдадзена ў 1980–1982 гадах у 4 тамах, і ў 1992–1994 гадах — у 6 тамах. Яго творы перакладзены на 35 моў свету.

Памёр і пахаваны ў Мінску.

**«Народная Воля»**

РОДНАЯ МОВА

# «БЕЛАРУСЬ БЫЛА МОЦНАЙ КРАІНАЙ ТОЛЬКІ ТАДЫ, КАЛІ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ УСЁ БЫЛО ДОБРА»

**Юрыст і «моўны інспектар» Ігар Случак на падставе сваёй дысертацыі падрыхтаваў кнігу «10 стагоддзяў дзяржаўнасці і дыскрымінацыі беларускай мовы». Аўтар распавёў «Новаму Часу» пра тое, якая сувязь паміж моваў і дабрабытам краіны, а таксама як можна атрымаць выданне.**

**— Распавядзіце, як утварылася кніга і чаму менавіта цяпер прыйшоў для яе час?**

— Ужо больш за 10 год я займаюся абаронай моўных правоў. Я шмат перапісваюся з чыноўнікамі, вытворцамі, спартовымі клубамі, рознымі арганізацыямі і іншымі ўстановамі — у мяне ёсць унікальны архіў доказаў недасканаласці моўнага заканадаўства. Я вывучыў усю магчымую літаратуру пра беларускую мову, пісаў дысертацыю і дыпломную работу пра моўную палітыку ў Беларусі, распрацоўваў змены ў заканадаўства.

На падставе свайго досведу і ведаў пра моўную палітыку я даўно хацеў выдаць такую кнігу, але, калі жывеш у Беларусі і робіш для яе нешта карыснае, нічога немагчыма спланаваць. Бо сёння ты ў адным месцы, а заўтра ўжо вымушаны збіраць Стэфана (сына Ігара Случака і Аліны Нагорная. — НЧ), котку, рэчы і шукаць новае жытло, новыя кампутары. Таму ідэя з кнігай усё адкладалася і адкладалася.

А цяпер мы з Алінай распачалі «Акадэмію Ў» — курсы па абароне моўных правоў, і я зразумеў, што для паўнавартаснага навучання трэба падручнікі. І гэтыя веды важныя не толькі для нашых студэнтаў, але і для ўсіх, хто хоча, каб Беларусь была незалежнай, прававой і дэмакратычнай краінай.

**— Назва кнігі вельмі інтрыгоўная і абяцае шмат цікавых гістарычных прыкладаў як панавання, так і дыскрымінацыі беларускай мовы цягам 10 стагоддзяў нашай гісторыі. Ці можаце прывесці некалькі з іх, каб даць уяўленне будучым чытачам, што іх чакае?**

— Як прыклад панавання можна прывесці той факт, што каралі польскія карысталіся беларускай мовай, бо ў той час, калі беларуская мова ўжо была мовай прававых актаў, польская пісьмовая мова яшчэ была недастаткова развітая. Таксама ў якасці добрага прыкладу можна ўзгадаць, што мовай дыпламатычных зносін з заходнім светам была лацінская, а з усходнім — беларуская.

Як прыклад дыскрымінацыі можна прывесці той факт, што з 1697 года на беларускай мове забаранілі выдаваць новыя прававыя акты, або тое, што канстытуцыя 3 траўня 1791 года была выдадзена толькі па-польску. Або тое, што сёння заканадаўства ў 98,5% выпадкаў выдаецца на рускай мове.

**— Даследаваўшы ажно 10 стагоддзяў існавання беларускай мовы, маглі б вы падзяліцца нейкімі найбольш важнымі высновамі?**

— Беларусь была моцнай краінай толькі тады, калі з беларускай мовай усё было добра. Менавіта таму нядобразычліўцы мэтанакіравана стагоддзямі знішчалі нашую мову, каб Беларусь не была самастойнай, а беларусы сталі «лялькамі» чужых інтарэсаў.

У 10 стагоддзі нарадзілася беларуская дзяржаўнасць у выглядзе Полацкага княства — да гэтага палітычнай арганізацыі не было, было толькі кіраванне плямёнамі. І калі з'явілася дзяржава, то з'явілася падстава і разважаць пра дзяржаўную мову. І хоць напачатку палітычныя эліты карысталіся сваёй роднай скандынаўскай мовай, але пасля цалкам перайшлі на беларускую.

**— Дык чаго ж у гісторыі беларускай мовы было больш — дзяржаўнасці ці дыскрымінацыі? Ці дае кніга адказы на пытанні пра прычыны гэтага?**

— Цяпер можна казаць, што гісторыя падзялілася на два роўныя адрэзкі — да 15 ст. было больш дзяржаўнасці, пасля пачалася моўная дыскрымінацыя і, адпаведна, заняпад беларускай дзяржаўнасці. Таму калі мы хочам бачыць Беларусь сапраўды незалежнай і моцнай дзяржавай, гісторыя кажа нам аб тым, што беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай у краіне.

**— Нядаўна выйшла кніга Аліны Нагорнай «Мова 404» пра дыскрымінацыю беларускай мовы. Ці не будзе паўтарэнняў у вашай кнізе?**

— Кніга Аліны — рэальныя гісторыі людзей, што размаўляюць па-беларуску ў Беларусі. Жывыя прыклады дыскрымінацыі. У маёй кнізе — факты, падзеі, юрыдычныя моманты. Але і прыклады з кнігі Аліны таксама ёсць, бо яны цудоўна ілюструюць недасканаласці сённяшняга моўнага заканадаўства.

**— Як можна падтрымаць выданне і атрымаць кнігу?**

— Трэба паставіць плюсік тут, а мы звяжамся з вамі праз некаторы час.

**Яўгенія Бурштын**
**novychas.online**

РАСІЯ

# МЫ ПОЛАГАЛИ, ЧТО ВЫ ОТСТАЛИ ЛЕТ НА 10-15. ОКАЗАЛОСЬ — НАВСЕГДА!

**С вице-премьером РФ Юрием Борисовым не поспоришь, и потому «глупо говорить, что в России существует серийное микроэлектронное производство». «Современная цивилизация — это цивилизация постоянного ускорения. Оно ощущается повсюду — не только в скорости появления новых идей, но и в технологиях, в экономике, в торговле, в образовании, в средствах массовой информации, в политике, даже в повседневном быте людей».**



Золотые слова, и произнесены они были с самой высокой трибуны страны в 2013 г.!

Разумеется, автор золотых слов не претендовал на лавры первооткрывателя. Постоянное ускорение — отличительная черта Нового времени, хронологию которого специалисты ведут с открытия Колумбом Америки.

В наши дни ускорение в сфере новых технологий проявляется, в частности, в эмпирическом наблюдении соучредителя корпорации Intel Гордона Мура, согласно которому количество транзисторов, размещаемых на кристалле интегральной схемы, удваивается каждые два года.

Богу Богово, а Муру мурово. Для корпорации Intel и для всех ее транснациональных товарищей по несчастью у нас есть свой, в национальные цвета раскрашенный ответ. В афористичной форме он был вербализован еще в 2016 г.:

«Инновации, IT-технологии, приватизации и прочее. Все это понятно. Мы уже это освоили. Но все, и наша жизнь — в простом. Надо раздеваться и работать. До седьмого пота. Не будет этого — погибнем».

**Основной вывод мозгового штурма**

Прошло шесть лет. Мы живы. Однако «спецоперация», точнее реакция объединенного Запада на «спецоперацию», внесла серьезные коррективы в простую и отлаженную формулу выживания. Она понятна каждому, кто в детстве читал романы Фенимора Купера и Майн Рида. Читателям, с книгами классиков приключенческого жанра XIX века незнакомыми, поясню, что в основе ее — бартер природного сырья на промышленные изделия.

На дворе, если кто запамятовал, пятый технологический уклад, список ядерных характеристик которого возглавляет электронная промышленность. Поэтому придание нового импульса развитию отечественной микроэлектроники актуально как никогда. О нем и шла речь 14 июня на совещании во Дворце Независимости.

Основной вывод мозгового штурма передает следующая цитата:

«...ракеты должны летать в космос, ракеты оборонные, ПВО, земля-земля и так далее, подлодки и ядерные боеголовки должны летать. Никто под это не даст то, что ты производишь. Сейчас актуальнейшая тема: сможем ли мы всем своим комплексом предприятий, которые у нас есть (микроэлектронных предприятий), обеспечить наши потребности — России и Беларуси. Деньги на это есть».

До начала «спецоперации», а если точнее, до «Крымнаш», наличие денег на просторах Союзного государства гарантировало решение проблем любой сложности. А что мы имеем сегодня?

На совещании было упомянуто всуе имя ответственного за российский ВПК, вице-премьера Юрия Борисова. Ему и слово:

«Глупо говорить, что в России существует серийное микроэлектронное производство. Мы даже отсутствуем в мировой статистике».

Слово это не было обронено впопыхах, а прозвучало в декабре 2019 г. с трибуны конференции «Электроника в России: будущее отрасли».

За неполных три года оптимизма у вице-премьера не прибавилось. 13 июня в интервью РБК ТВ он подчеркнул, что в последнее десятилетие в России не развивалось электронное машиностроение, средства производства электроники в стране не создавались, а закупались за рубежом.

«С 1990-х годов мы практически потеряли компетенции в этой области. И сегодня будем их восстанавливать».

Интересно, сколько лет уйдет на восстановление компетенций 90-х, и кому сегодня нужны компетенции тридцатилетней давности? Между тем закон Мура никто не отменял. Последовательное удвоение количества транзисторов каждые два года на единице площади кремниевых кристаллов означает непрерывное совершенствование оборудования.

До начала «спецоперации» заказы на производство серверных процессоров собственной разработки Baikal-S Россия размещала на тайваньской TSMC. Увы, такой уровень кооперации остался в прошлом.

Перспективы обсуждения нового уровне кооперации экс-президент России Дмитрий Медведев четко обозначил в своем июньском манифесте: «Я их ненавижу. Они ублюдки и выродки. Они хотят смерти нам, России. И пока я жив, я буду делать все, чтобы они исчезли».

Тем не менее, вера в «наши разработки», способные удивлять и отрезвлять любителей вынашивать агрессивные планы в отношении Союзного государства, непоколебима. С этим сложно не согласиться. Как тут не вспомнить анекдот о реакции руководителя японской делегации на увиденное на одном из флагманов советской микроэлектроники в конце 80-х: «Мы полагали, что вы отстали лет на 10-15. А вы отстали навсегда!»

**Сергей Николюк**
**www.sn-plus.com**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАДТРЫМКА

# «ТУНЕЯДЦЕВ» МЫ НАЙТИ МОЖЕМ, А НУЖДАЮЩИХСЯ В ПОМОЩИ — ПОЧЕМУ-ТО НЕТ

**Академический директор BEROC Катерина Борнукова — о том, какой должна быть социальная поддержка белорусов в условиях санкций и роста цен. Власти подготовили законопроект по социальной поддержке населения, его внесли на рассмотрение депутатам. В частности, чиновники хотят разрешить правительству устанавливать единовременные выплаты отдельным категориям граждан.**

**— В начале апреля правительство Беларуси приняло план поддержки экономики, в котором, в частности, есть такая мера: организации смогут получать субсидии из ФСЗН для доплат работникам, а также государственной соцпомощи на ежемесячное соцпособие. Насколько, по-вашему, это эффективно?**

— Это такая мера, которая выступает своеобразным заменителем пособий по бедности и безработице. Такой мерой нанимателей стимулируют, чтобы они не увольняли работников, продолжали их держать на рабочих местах, и ФСЗН будет субсидировать часть зарплат, часть выплат этим работникам. Это в каком-то плане костыль, потому что это не очень прозрачная схема. Пособие по безработице или по бедности понятно как работает, а как работает этот механизм, каким образом можно получить к нему доступ, в общем-то не очень ясно.

Похожие механизмы вводились во время ковида, и мы не знаем ни одного кейса, когда такой субсидией могли бы воспользоваться частные фирмы, то есть формально ограничения нет, но из-за неясности механизма, каким образом надо доказывать, что именно твоему предприятию нужны эти субсидии, вероятность того, что частный сектор или его работники смогут получать эти субсидии из ФСЗН, очень мала.

Это несправедливый подход, потому что у нас половина рабочей силы занята в частном секторе, они такие же граждане Беларуси, как и сотрудники госпредприятий, которые с большей вероятностью получат поддержку, чем сотрудники частных компаний.

В ближайшее время экономику ждет структурная трансформация. Это означает, что одни компании будут вынуждены закрыться, другие откроются. Искусственные программы по поддержке занятости хорошо отработаны в ковид, когда надо было, например, переждать пару месяцев и потом все более-менее налаживалось. Действительно, имеет смысл в эти пару месяцев людей не увольнять.

Когда мы говорим о долгосрочной структурной трансформации, то, конечно, надо людям давать социальную поддержку первое время, но она не должна быть в виде поддержания занятости.

То есть сегодня лучше, чтобы работники «Беларуськалия», которые простаивают, искали новую занятость на предприятии, которое работает, например, на импортозамещении, чем просто сидели и получали небольшое пособие от государства.

Это пособие, конечно, должно быть первое время. Но надо мотивировать людей переходить на новые рабочие места, чтобы структурная трансформация проходила быстрее.

**— Как вы считаете, какие меры следовало бы принять властям для того, чтобы поддержать население?**

— Часть того, что делается, постоянная индексация пенсий и пособий, это очень важно, потому что пенсии для большинства пожилых людей — это единственный источник дохода. Надо очень внимательно следить за тем, чтобы пенсия соответствовала критериям бюджета прожиточного минимума.

Второй момент — расширение существующей адресной социальной помощи, чтобы люди знали о ней и могли легко ее получить, а не надо было собирать множество бумаг. Возможно, давать ее по выявительному принципу. «Тунеядцев» мы найти можем, а нуждающихся в адресной социальной помощи — почему-то нет.

Учитывая те процессы, которые грядут на рынке труда, трансформации и перестройки, обязательно нужно иметь пособие по безработице, которое позволило бы человеку после увольнения какое-то время поддерживать свой прежний уровень жизни и спокойно заниматься поиском новой работы.

Не надо изобретать велосипед. Есть хорошо работающие рынки труда, например, в Германии, который с одной стороны имеет высокий уровень социальной защиты, с другой — не приводит к искажениям, к тому, что люди не хотят искать работу.

В идеале первые месяц-два пособие по безработице должно быть привязано к зарплате работника. Пусть это будет не сто процентов, а 60-80. А после человека переводят на пособие по бедности, которое позволяет его семье получать минимальную поддержку, чтобы функционировать. Таким образом не будет создаваться негативных стимулов на рынке труда. Если платим хорошее пособие пару месяцев, вы будете заинтересованы найти работу как можно скорее, а не сидеть на пособии годами.

*(скарочана)*

**Яна Соколова**
**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stankevich62@gmail.com тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.06.2022 у 19.19**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.